№ 4. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопіс

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 4 (96). Год II. Вільня, 12 студня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Самагубство Грэціі.

## Вайна да поунай пабеды.

### 11 студня.

**Усходні тэатр:**

У завароці Іпра і Вітчэта, на Анкр, Сомме і наабапол Маасу артылерыйская і мінная бітва момэнтамі даходзіла вялікай сілы. На поўначы ад Іпра атака ворагоў адбіта с цяжкімі для іх стратамі. Уварваўшыеся на вузкім адрэзку англічане выкінуты контратакай. Каля Бомон ворагам удалося здабыць выступаўшый кут нашаго акопу. Нашы лятуны збілі два увязаные англіцкіе лятучые шары, каторые зваліліся палючыся.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Пасьля сільнаго агня артылерыі між Рыгай і Смаргоньню ў розных пунктах фронту былі расейскіе атакі і наступленьня; ўсе яны адбіты.

*Фронт эрц-гэрцога Іозефа:* У цяжкіх, гарыстых ваколіцах нямецкіе і аўстрыяцкіе войскі мелі ўчора далейшые удачы між далінамі Уж і Сусіта. Здабыты некольки апорных пунктоў. На поўначы ад дарогі Ойтос узяты штурмам крэпка ўмацаваные і ўпорна бараніўшыеся пазыцыі. При Марасті і Ракоазе мы удзержалі здабытые лініі, ня гледзячы на атакі ворагоў. Узяты 6 афіцэроў, больш за 800 салдатоў і 6 кулемётоў.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Без выдатных прыпадкоў.

*Македонскі фронт:* Удачные для нас патрульные бітвы на Струме.

БЭРН. 10.I. „Matin“ пішэ, што на конфэрэнціі ў Рыме прэдстаўнікі саюзьнікоў прынялі ноту з атказам Вільсону без ніякіх спорак. Нота ясна раскрывае, як укладаліся ваенные мэты саюзьнікоў.

У справе атказу на нямецкае прэдлажэньне міра дайшлі поўнай згоды ўсіх саюзьнікоў.

---

## Атказ саюзьнікоу Вільсону.

ПАРЫЖ. 10. I. (Hawas). Брыан сягоньня ў 1/23 гадз. прыняў амэрыканскаго пасла і ад імі ўсіх саюзьнікоў даў атказ Вільсону на яго ноту з 19 сьнежня.

Атказ саюзьнікоў будзе апавешчэн у пятніцу раніцай, бо саюзные правіцельствы хочуць, каб Вільсон даведаўся аб ноці перш, чым яна будзе апублікована,

---

## Развязка долі Балканоу.

БЭРН. «Corr. della Sera» даносіць з Афін:

**Ультіматум саюзьнікоў падаў італьянскі пасол.**

Думаюць, што грэцкі урад прыйме ультіматум с тэй умовай, каб не былі высаджэны войскі рэвалюцыонероў (Вэнізэлоса).

У народзі пануе поўны спакой.

Учора адбылася коронная рада, на якой былі ўсе быўшые міністры-прэзыдэнты. У вечары засядала рада міністроў.

АФІНЫ. (Рэўтэр) 10.I. а 4 гадз. 30 мін. паабедзі. **Атказ грэцкаго правіцельства аддадзен. Грэціо прыняла ультіматум саюзьнікоў.**

**Новы міністэр прэзыдэнт.**

ШТОКГОЛЬМ. Князя Голіцына лічаць толькі за тымчасоваго міністра прэзыдэнта.

ПЕЦЯРБУРГ. 11.I (П.Т.А.). Міністэр-прэзыдэнт кн. Голіцын сказаў журналістам, што яго кліч будзе: **„Далейшая вайна да поўнай, аканчацельнай пабеды“.**

---

## Дзержаўная Рада Польшчы.

ВАРШАВА. 10.I. Апублікован спіс членоў Дзержаўнай Рады. Яна будзе складацца с прэдстаўнікоў консэрватыўных элементоў, паступоваго цэнтру і радыкальнаго леваго крыла.

Прэдстаўнікі нямецкай уласьці: камісар—гр. Лерхэнфэльд, намесьнік яго—гр. Гуттэн-Чапскі, земскі райчы—Язэп Жыхлінскі; аўстрыяцкай уласьці: камісар — бар. Конопка, намесьнік — член польскаго клюбу Ігнат Розпэр і акружны начальнік Ішковскі.

## Дзеля буднай работы.

«Жыві сам і дай жыць другім»—гэткая была заўсёды аснова згоднаго жыцьця людзей і народоў. Але ў тых варунках, у якіх цяпер апынуўся наш Край, гэты прынцып трэба яшчэ пашырыць: ня толькі дай жыць другім, але і чынна памагай ім, бо моц Краю— гэта і твая ўласная моц.

Асабліва выяўляецца патрэба гэткай пастаноўкі міжнацыональных адносін у справах экономічных і справах культурнай працы. У справах экономічных, справах самапомачы і помачы бяднейшым братом гэткая еднасць тым болей патрэбна, што ў нас некаторые нацыональные групы складаюцца перэважна з людзей заможных станоў (паляк), а іншые, наадварот, ня маюць між сабой элемэнтоў заможных і складаюцца бадай з адных толькі гарапашнікоў — селян ды работнікоў (беларусы), каторым патрэбна помач сільнейшых экономічна грамадзян краю. Гэтак сама і у справе прасьветы ўсе грамадзяне нашай старонкі павінны працаваць солідарна, паддзержываючы тых, каму цяжэй здабываць навуку.

Прынцып—прынцыпам, а жыцьцё—жыцьцём. Лішне крэпка ўкараніліся ў нашых больш заможных станах эгоізм і самалюбство, каб яны—тые станы — маглі-бы зразу змяніць сваё становішчэ. І затым то на іх беларусам лічыць не прыходзіцца: з гэтаго боку яны помачы ня знойдуць, якое-бы цяжкое жыцьцё ні прыгатавала нам будучына.

Вось, тут беларусы і павінны шукаць апоры і ўзаемнай паддзержкі ў тых нацыональных групах, каторые знаходзяцца ў такіх жэ варунках, як беларусы. З гэтаго пагляду найбліжэйшы да нас літвіны.

Дагэтуль беларусы і літвіны у сваіх *палітычных* выступленьнях ішлі рука ў руку. Але такой еднасьці толькі на палітычным грунці — мала: гэтые дзьве нацыональнасьці павінны зближацца між сабой і у *грамадзкім* жыцьці — у *штодзенным змаганьні за свой экономічны і нацыональны быт.*

Да гэтаго — без ніякіх умоў, а неяк само сабой — кіруецца грамадзкае жыцьцё беларусоў і літвіноў у Вільні. Дый з вёсак— з беларуска-літоўскіх ваколіц — да нас даходзяць пісьмы ад літвіноў, каторые там, на мейсцу, працуючы для сваіх, выказваюць ахвоту скрануць з мейсца і прыспаных беларусоў (у Сьвенцянскім павеці). Вось жэ, нам здаецца, той натуральны нахіл да еднасьці трэба палажыць у аснову дзеля стварэньня супольных беларуска-літоўскіх грамадзкіх установ, ды гэтые апошніе ўжо маглі-бы сьведома кіраваць супольнай буднай работай беларусоў і літвіноў, дзе стыкаюцца абодва народы.

Аб гэтым і павінно парупіцца беларускае і літоўскае грамадзянство, памятаючы, што тые беларусы і літвіны, які адпадаюць ад свайго народу і прыстаюць да чужой нації, становяцца ворагамі і беларускаго і літоўскаго народу.

*А. Н.*

---

## Перамена фронту.

У кніжцы Грабовскаго «Białoruś pod rządami Rosji», аб каторай мы ўжо раз пісалі, аўтор сабраў і надрукаваў дужа цікавую бібліографію важнейшых польскіх прац аб Беларусі і беларусах. Хаця бібліографія гэта і не зусім поўная, ды яна мае ў сабе больш за 90 сур'ёзных прац аб беларушчыне і паказвае лішні раз, што пытаньне аб беларусах — гэта пытаньне ня новае, бо ім займаліся лепшые прэдстаўнікі польскай культуры ў нашым Краю праз усё XIX сталецьце.

Трэба адзначыць, што, апрыч пералічэных у бібліографіі Грабовскаго сур'ёзных досьледоў аб Беларусі і беларусах навуковаго характэру — болей-меней об'ектыўных, за апошніе часы аб беларускай справе пачалі пісаць безмала ўсе, хто ўмее звязна выкласьці думкі сваё на паперы. Ды якая-ж вялікая розніца між тымі людзьмі, творы каторых падаў Грабовскі, і тымі „пісьменнікамі“ па тры грошы за друкаваны радок, каторые запаўняюць страніцы польскіх газэт стацьцямі аб беларускіх справах! Тож у тым жэ Кракові, дзе Акадэмія Навук друкавала гэткіе цэнные працы, як Міх. Фэдэровскаго «Lud Białoruski na Rusi Litewskiej» і інш., — цяпер «Nowa Reforma» пішэ, бытцым усю беларускую справу робіць „кучка агітатароў“, а нейкі дамарослы «філёлёг» апаведае ў іншым мейсцу, бытцым беларуская мова — гэта „мешаніна слоў польскіх, расейскіх, літоўскіх і латышскіх“...

Падобных праяў нельга вытлумачыць аднэй толькі ігнорanцыей — нявуцтвам: у гэтым мы бачым паварот у палітыцэ некаторых польскіх палітычных груп, каторые знаходзяцца у бліжэйшай стычнасьці з нашымі тутэйшымі «прыяцелямі». Яны—гэтые прыяцелі—гатовы былі скрозь пальцы глядзець на рух беларусоў да нацыональнаго адраджэньня, спадзяючыся, што беларусы, вызваліўшыся ад культурнаго панаваньня расейцоў, не здалеюць

астацца самабытным народам і зліюцца с палякамі, аддаючы ўсе творчые сілы сваe польскай справе. Алe, калі выявілося, што беларусы, усьцярeгшыся маскоўскай небаспекі, ня думаюць ісьці за парабкоў да другога суседняго народу, — вось тады „палітыка“ зьмянілася. І мы яшчэ нідаўна — ўжо пасьля таго, як у Вільні паатрываліся беларускіе школы, курсы для народных вучыцелёў, клюб, тэатр, экономічные організацыі (коопэратыва, работные дамы) і т. п., згуртаваўшые сотні беларусоў, — мы ў сур'ёзнай гутарцы пачулі з вуст прэдстаўніка польскаго духавенства ў Вільні: «Што тут гаварыць аб беларусах і беларускай справе, калі ў Вільні ўсяго пяцера беларусоў“...

Мы друкуем у нашай газэці бібліографію Грабовскаго затым, каб даць усім яркі доказ несумленнасьці тэй палітыкі, каторая ў момэнт шырокаго развіцьця беларускай справы капае пад ей ямы. Ніхай жэ безстаронные людзі перэканаюцца, што ўсе гутаркі нашых *цяперашніх* «прыяцелёў» аб беларускай справе — гэта пустые словы недавучэк, незнаёмых нават с працамі сваіх нацыональных вучоных і пісьменнікоў.

*І. Мелешка.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Ахвяра.** У рэдакцію «Гомана» паступіла ад ксендза Толочкі ахвяра на беларускіх дзяцей 1 руб. Грошы аддадзены ў Беларускі Камітэт.

× **Агульна-работніцкі культурны Саюз** ладзіць у гэту суботу агульны сход сваіх членоў у гасподзі сваей (Віленская 20, 3) а 6 гадз. вечара. Будзе справоздача ураду.

× **Дарагоўля.** С прычыны недастачы прадуктоў і даражыні іх жыдоўскіе страўні павялічылі цэну абедоў с 7 фэн. да 10 фэн. У страўні жыдоўскаго рамесьніцкаго саюза порція абеду з мясам каштуе 60 фэн. Ў жаноцкай страўні, дзе кожын дзень выдаюць больш за 800 порцій, абед каштуе 20 фэн.

× **Прадажа круп.** У местовых крамах замест дзеннай порціі хлеба можна атрымліваць 150 гр. круп.

× **Камісія дзеля установкі цэн.** На апошнім заседаньні камісіі у аўторак былі жальбы на недастатачны падвоз рыбы. Адзначывалі недастачу сецей. Есць надзея, што палажэньне палепшыцца, як пачнуць лавіць рыбу с-пад лёду.

Ізноў выкрыты некольки прыпадкоў „хрышчэньня“ малака. Вінаватых пакараюць за гэта, і імёны іх будуць надрукованы.

За бруды зачынены ўжо дзьве пекарні. Намечэны да закрыцьця ешчэ некольки.

Ня гледзячы на недастачу мукі, жыдом і сёлета будзе на Вялікдзень выдавацца маца паводлуг карт на хлеб.

× **Спэкуляція на солі.** Несумленные таргоўцы пускаюць чуткі, што німа солі, і вымагаюць за яе надта высокіе цэны. Робяцца крокі дзеля выясьненьня вінавайцоў і пакараньня іх.

× **Замена мыла.** У местовых жыдоўскіх крамах прадаецца замена мыла па 45 фэн. фунт.

× **Скорая помач** ад 1 да 7 студня дадзена ў 67 здарэньнях. У 36 прыпадках выежджала карэтка скорай помачы.

× **Зімовые забавы.** Гэтымі днямі ў Ботанічным садзі, на пляцу проці летняго тэатру, аткрываецца каток дзеля коўзаньня.

На Лысай гарэ, за Замковай гарой, устроен з'езд дзеля саначэк ажно на Антокальскую вуліцу. Узлазіць на гару найлепей цераз летняе афіцэрскае касіно, ля ўходу ў Бэрнардынскі сад.

× **Кары за неспаўненьне загадоў.** Шавец Міхаіл Каспэровіч (Пескі 1) за незаяўку матэр'ялоў, падлегаючых рэквізыціі, засуджэн на 30 м. штрафу або 6 дзён вастрогу.

Мордух Рудомін (Шпітальная 8, 1), Хая Мовшовіч (Зарэчная 10), Эстэра Глінцішэк (Шпітальная 4, 14) за нарушэньне загаду Обэр Ост з 22. IX. 16 аб дабываньні сырцоў і матэр'ялоў, падлегаючых рэквізыціі, пакараны: першы— 5 м. штрафу або 1 днём вастрогу, дзьве апошніе—па 30 м. штрафу або 6 дзён вастрогу.

× **Курс рубля:** офіцыальны — 1 м. 90 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 22 ф., пры куплі—2 м. 26 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

# Беларуская страуня.

*(Пісьмо у Рэдакцію).*

Беларускае грамадзянскае жыцьцё ў Вільні с кожным днём зарысовывае ўсё шырэйшые кругі і ад часу да часу паяўляецца якаясь новая беларуская установа.

Вось, у часі адходу расейцоў мы мелі ў Вільні толькі дзьве беларускіе установы: коопэратыву „Райніца“ і бел. т-во помачы ахвярам вайны. А пасьля адходу арганізуецца клюб беларускі, хутка наладжываецца беларускі театр, вучыцельскіе курсы, атчыняюцца беларускіе школы...

Даўно ўжо чутна патрэба ешчэ аднэй установы — гэта таннай страўні для сярэдніх сфэр. Польскае і літоўскае грамадзянство маюць такіе страўні, а вось у нас, беларусоў, ешчэ яе німашака.

Цяперака, калі с прычыны даражыні спажыўных прадуктоў і труднасьці іх купляць, а таксама с прычыны даражыні дроў, шмат людзей перэстало варыць страву ў хаці і ўсё болей і болей людзей пачынае карыстацца абедамі у стрэўнях, — цяперака пытаньне аб таннай страўні — адно з важнейшых.

Апрача практычнаго значэньня, гэткая установа мелаб значэньне і з моральнаго боку: яна далабы магчымасць беларусам, спатыкаючыся у адным мейсцы пры шклянцы таннай гэрбаты, пагутарыць аб сваіх справах, спаткацца з другам-прыяцелем, у сымпатычнай роднай атмосфэры правесьці некольки кароткіх хвілін, якіе працавіты чэлавек мае на абедзенны адпачынак. Каліб гэткая страўня наладзілася, можнаб было пасьля падумаць і аб танных вячэрах. Вядома ўсім—і жывучым сямейным жыцьцём і адзінокім людзям, — колькі пры цяперашняй даражыні каштуе самая скромная страва. А тутака за колькідзесят фэнігоў госьць могбы атрымаць талерку якойсь кашы, за 10 фэн. шклянку гэрбаты з сахарынай.

Не да мяне належыцца падробная разработка гэтаго праекту: я кідаю толькі думку. Калі мой праект спадабаецца, хай знойдуцца людзі болей практычные, каторые лепей за мяне ўсё абсудзяць.

У нас у Вільні ёсць дзьве беларускіе установы, маючые на мэці аблягчэньне матэр'яльнаго жыцьця: коопэратыва „Райніца“ і Т-во помачы ахвярам вайны. Вось, калі ня знойдуцца людзі, каторые прынялі-бы на себе арганізатарскую работу, можэб гэтые установы супольна правялі гэтую думку ў жыцьцё, — калі вышэйпісаны праект з іх пагляду будзе патрэбным.

*Пранук Безхатны.*

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Важнейшые польскіе працы аб Беларусі і беларусах.**

*D-r Tad. St. Grabowski.*

A. S.: „Pan Tadeusz“ na Białorusi. («Tyg. ilustr.» 1887).

Akta sądów potocznych i podkomorskich. (wyd. Wileń Komisyi Archeograf. T. VI. 1872, T. VII. 1875 i nast.).

Baliński Mich. i Lipiński Tym.: Starożytna Polska (Wilno, 1844—1848. w T. 3-im o Białorusi, oraz w wyd. z r. 1884—6. (Warsz. T. IV.) z uzupeł. T. Martynowskiego).

Bartoszewicz Jul.: Ruś. (w XXII. t. „Wielk. Encyklop. Orgelbranta“ str. 513 i n.).

Barszczewski Jan: Szkic północnej Białorusi. («Recz. liter.» 1843).

Barszczewski Jan: Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycz. opowiadaniach, poprzedzone kryt. rzutem oka na liter. białoruską przez R. Podbereskiego. (T. I—IV Petersburg, 1844—5).

Bykowski Piotr Jaksa: Pieśni obrzędowe ludu rusińsk. z okolic Pińska. (Odb. z wyd. Akad. Umiej. Krak. 1878).

Cercha St.: Poszukiwania archiwalne w gub. mohyl., pow. rohacz., bychow. (Kraków 1895).

Chleb(owski) Br.: Białoruski rękopism z XVI w. („Ateneum“, 1887).

Chmielowski Ben.: Nowe Ateny albo Akademia wszelkich scyencyi pełna. (Lwów, 1845 — 6. — O Białej i Czarnej Rusi w t. II str. 294 i n.).

Chomętowski W. Biblioteka Ordyn. Krasińskich T. II. (1876) tamże „Słowniczek słów białoruskich mniej zrozumiałych“ W. Korotyńskiego.

(Далей будзе).

# З усяго Краю.

**Патрэба школ.**

СЬВЕНЦЯНЫ (ад нашаго карэспандэнта). У Сьвенцянскай парахвіі ёсць толькі літвіны і беларусы, ды зусім мала палякоў. Літвіны паводлуг сваей магчымасьці заняліся справай аб аткрыцьці

# На паліцейскай варце.

Апаведаньне **Р. Кіплінга.**

(Гл. пачатак у «Гомане» № 2).

І мы атказалі: „Тваe слугі прысягаюцца. Кроў, што пралілася ў бітві, толькі ешчэ засохла на нас. Прыглядзься сам, ці запраўды гэта кроў слуг яго сьветласьці, ці не“. А ён сказаў: „Я бачу. Вы добра зрабілі“. Але ён не загадаў падаць ні свайго каня, ні чортавай каляскі, каб пасьля сваім звычаем паняcьціся на мейсцэ прыгоды. Ён толькі дадаў: „Адпачыньце цяпер ды з'есьце хлеба, бо вы прысталі. Я пачэкаю прыбыцьця Діпті сагіба“.

Тады быў наказ, каб хавілдар с тханы паслаў даносы аб усіх дэйкотах проста Діпті сагібу. А поўдні прыбыў ён сам, тоўсты ды стары, і люты пры тым. Але мы ўсе, што былі на тхані, не баяліся ягонаго гневу, а больш баяліся маўчаньня льва з Гокрал Сітаруна. З ім прыбылі Рам Бакш, хавілдар і іншые і прывялі пад вартай дзесяць чэлавек с села Хоўлі—ўсё такіх людзей, што блага аднасіліся да паліціі Сіркара. Іх прывялі, як арыштантоў, с кандаламі на руках, і яны прасілі міласэрдзя: Імам Бакш, хутаранін, што адмовіўся уступіць сваю жонку хавілдару, і іншые паганцы, на каторых мы на тхані злаваліся. Усё было зроблена добра, і хавілдар пышаўся гэтым. Але Діпті сагіб гневаўся на Стэнта за малую руплівасць з яго боку і гаварыў „дам-дам“*), як усе англійцы, а хавілдара дужа хваліў. Юнкум сагіб спакойна лежаў у доўгім крэсьлі. „Людзі ўжо прысягнулі?“ спытаў Юнкум сагіб. „Так і спаймалі дзесяцеро злaдзеёў“, сказаў Діпті сагіб. „І ешчэ больш іх гуляе на волі, дзякуючы вашай стараннасьці. Вазьміце каня—садоўцеся на яго і едзьце хутчэй туды ў імя Сіркара“.—„Запраўды ёсць ешчэ зладзеі, што гуляюць на волі“, сказаў Юнкум сагіб, „але для іх ня трэба каня; хадзіце вы ўсе за мной“.

Я бачыў, як жылы надуліся на лобе Імама Бакшы. Ці знае яго сьветласць мукі халодных шчыпцоў? Я бачыў такжэ твар льва з Гокрал Сітаруна; нядобрая усьмешка іграла на ім, і я адышоўся назад, гатовы на ўсё, што-б ні сталося. Добра, сагіб, што я зрабіў гэта. Юнкум сагіб адчыніў дзьверы свайго ваннаго пакою і ізноў усьміхнуўся. У ей ляжалі ўсе шэсць стрэльб і грубая паліцэйская кніга тханы ў Хоўлі! Ён прыбыў у начы на сваей чартоўскай каламажцы і, пасуваючыся сярод нас, сьпячых, бязшумна, як мара, забраў і стрэльбы і кнігу! Двойчы прыежджаў ён у тхану і кожны раз вывозіў па тры стрэльбы. Вантробы хавілдара абярнуліся ў ваду, і ён упаў у гразь да ботоў Юнкум сагіба і загаласіў: „змілуйцеся!“

А я? Сагіб, я дэлійскі пахтан і малады чэлавек з маленькімі дзеткамі. Кабыла хавілдара стаяла на падворку. Я пабег да яе, скокнуў на яе і пагнаў у сьвет за вочы: чорны гнеў Сіркара гнаўся за мной па пятах, і я ня ведаў, куды ад яго дзецца. Я імчаўся, пакуль не пала пада мной і ня здохла рудая кабыла, і, з ласкі Божай, які без сумніву на старане ўсіх нявінных людзей, я ўратаваўся. Але хавілдар і рэшта сідзяць цяпер у вастрозі.

Я нягоднік? Гэта як яго сьветласьці да спадобы. Бог зробіць яго сьветласць лордам і дасць яму за жонку багатую *mem sahib*,*) так сама панадную, як Піэрі, і многа дужых сыноў, як ён зробіць мяне сваім пасланцом. Ніхай міласэрдзе неба будзе над сагібам! Эгэ, я толькі паеду на рынак ды прывяду сваіх дзетак у гэтые харомы, і тады яго сьветласць будзе і бацькам маім і маткай, а я, Аўзал Хан — нявольнікам яго.

Эгэ! Я так сама належу да чэлядзі сагіба.

КАНЕЦ.

*) „Дам-дам“—праклёны.

*) паню.

